

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 44 (780) 1 ЛІСТАПАДА 2006 г.

## Дзяды ў Свіслачы

29 кастрычніка ў 10-ты раз з'ехаліся ў Свіслач патрыёты Беларусі, каб ушанаваць памяць паўстанцаў 1863 года.

У свіслацкім касцёле раніцай была адпраўлена імша за Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў. Тутэйшыя жанчыны, якія выйшлі з касцёла, расчулена казалі, як ксёндз цёпла ўзгадваў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, маўляў, яны былі сапраўднымі героямі і паклалі свае жыцці за народ.









Традыцыйна ўсе, хто прыехаў сёння ў Свіслач, напачатку ўсклалалі кветкі да магілы брата Кастуся – Віктара Каліноўскага. Віктар быў ідэолагам паўстання. Ля магілы сярод іншых прамову сказаў старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка.

Пасля арганізавана паехалі ў Якушоўку. На месцы былой сядзібы ў 1997 годзе гарадзенскімі і свіслацкімі актывістамі быў усталяваны высокі драўляны крыж. З тае пары і адзначаюць Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Крыж абкруцілі бел-чырвона белымі стужкамі, разгарнулі сцягі, запалілі знічкі. Слова прамовіў Аляксандр Мілінкевіч.

З Якушоўкі ўсе удзельнікі імпрэзы накіраваліся зноў у Свіслач, дзе ўсклалі кветкі да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту, дыктатару паўстання 1863 года ўсёй Рэчы Паспалітай.

*Яраслаў Грынкевіч.*

**На здымках:** ля магілы Віктара Каліноўскага; у Якушоўцы; помнік К. Каліноўскаму ў Свіслачы; ля помніка Р. Траўгуту.

## ГЕНАДЗЮ ЦЫХУНУ - 70



**ЦЫХУН Генадзь Апанасавіч** (н. 30.10.1936, в. Кунцаўшчына Гарадзенскага р-на), беларускі мовазнавец. Доктар філал. н. (1982). Скончыў Ленінградскі ун-т (1958). У 1958—59 і з 1963 у Ін-це мовазнаўства Нац. АН Беларусі (з 1990 заг. аддзела). Даследуе тыпалогію слав. моў і іх сувязі, моўныя саюзы, гаворкі Палесся, беларускую этымалогію і гісторыю беларускай мовазнаўчай славістыкі. Аўтар манаграфій «Сінтаксіс займеннікавых клітык у паўднёва-славянскіх мовах» (1968), «Тыпалагічныя праблемы балкана-славянскага моўнага арэалу» (1981), дакладаў на міжнар. з'ездах славістаў, артыкулаў пра беларуска-паўднёваславянскія і беларуска-балгарскія сувязі і інш. Сааўтар «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—8, 1978—93) і «Тураўскага слоўніка» (т. 1—5, 1982—87).

*(Пра Г. Цыхуна чытайце на ст. 2.)*

## Выйшаў каляндар "Родны край" на 2007 год

Міністэрства інфармацыі трымае сваё слова. У продажы з'явіўся адрыўны каляндар "Родны край" на 2007 год. Каляндар выйшаў у выдавецтве "Беларусь" накладам 7000 асобнікаў, і, як паведаміў прадстаўнік міністэрства карэспандэнту "НС", будзе прадавацца ва ўсіх кнігарнях Рэспублікі Беларусь.

Каляндар прызначаны перш за ўсё для жыхароў Беларусі. "Родны край" нагадае пра дзяржаўныя і рэлігійныя святы. На кожным лістку календара змяшчаюцца імяніны: праваслаўныя - *пр.* і каталіцкія - *к.*

У календары змяшчаюцца на кожны дзень года моманты ўсходу і заходу Сонца па паясному часу (з 25 сакавіка па 27 кастрычніка з улікам пераходу на летні час), а таксама даўжыня дня для Менска. А прача таго адзначаюцца дні асноўных фаз месяца: маладзік, першая квадра, поўня, апошняя квадра.

У календары можна знайсці шмат цікавага пра Беларусь, яе гісторыю, культуру, прыроду, карысныя парады па вядзенні хатняй гаспадаркі, выхаванні дзяцей, парады садаводу і агародніку, рэцэпты народнай медыцыны і шмат чаго іншага.

Асаблівацю календара на 2007 год з'ўляецца тое, што кожны лісток аздоблены графічнымі выявамі фрагментаў помнікаў архітэктуры Беларусі. Нажаль, у складальнікаў не хапіла імпэту стварыць 365 такіх выяваў, а таму таму дапускаецца паўтарэнне малюнкаў.




Выдадзены каляндар з'яўляецца 17-тым у шэрагу календароў "Родны край", выпуск якіх пачаўся з календара на 1991 год. Праўда, той першы каляндар выйшаў накладам 26 000 асобнікаў. Каляндары на 1992 і 1993 гады мелі наклад у 100 000 асобнікаў, на 1994 год - 130 000 асобнікаў, на 1995 год - 200 000 асобнікаў. Пазней наклад пачаў падаць. І вось маем 7 000.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Дзяды ў Курапатах

Некалькі соцень ўдзельнікаў памінальнага шэсця ў Курапаты 29 кастрычніка правялі мітынг сярод магіл ахвяр сталінізму. Па традыцыі ўдзельнікі шэсця зрабілі ў Курапатах два прыпынкі: ля крыжа Пакутнікам Беларусі, дзе праспявалі гімн "Магутны Божа" і на горцы з крыжамі, якую ў народзе называюць Беларускай галгофай.

На мітынгу ў Курапатах быў зачытаны ліст Зянона Пазьняка, які назваў Дзяды святам і нагадаў паклясціся перад продкамі на вернасць Айчыне.

Мітынг скончыўся малітвай святара незарэгістраванай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Леаніда Акаловіча і ўсталяваннем новых 12 крыжоў.

*Валер Каліноўскі, Менск.*

## 5 лістапада паседжанне Рады ТБМ

5 лістапада 2006 года ў 11.00 ў Менску ў сядзібе ТБМ адбудзецца чарговае паседжанне Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". На павестцы дня Рады наступныя пытанні:

1. Аб плане работы ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на 2007 год.
2. Аб газеце "Наша слова".

*Сакратарыят ТБМ.*

## 450-ты нумар "Нашага слова", выдадзены ў Лідзе

# ВЫДАТНЫ БЕЛАРУСКІ СЛАВІСТ І БАЛКАНІСТ

## Да юбілею Генадзя Цыхуна

Генадзь Апанасавіч Цыхун, выдатны беларускі славіст і балканіст, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Беластоцкага універсітэта, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (Масква), ганаровы доктар Сафійскага універсітэта свой юбілей сустракае ў росквіце творчых сіл і імкненні да новых здзяйсненняў на ніве беларускага мовазнаўства.

Нарадзіўся Г. Цыхун 30 кастрычніка 1936 г. у вёсцы Кунцаўшчына Гарадзенскага раёна. Закончыў сярэднюю школу (1953), славянскае аддзяленне філалагічнага факультэта Ленінградскага (цяпер Санкт-Пецярбургскага) універсітэта (1958), у 1959 - 1961 гг. займаўся ў аспірантуры гэтай навучальнай установы пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Юрыя Маслава. З 1961 да 1963 г. стажыраваўся ў Сафійскім універсітэце, дзе яго навуковым кіраўніком быў прафесар Стойка Стойкаў.

У 1958 - 1959 гг. і з 1963 г. - на працы ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Сінтаксіс займеннікавых клітык у балгарскай і македонскай мовах" у Ленінградскім універсітэце (1965), на матэрыяле якой праз некалькі гадоў была выдадзена манаграфія "Сінтаксіс займеннікавых клітык у паўднёва-славянскіх мовах (Балканаславянская мадэль)" (Мінск, 1968), дзе разглядаюцца некаторыя пытанні сінтаксісу ненаціскных (кароткіх) формаў асабовых займеннікаў (т. зв. балканізмаў у паўднёваславянскіх мовах) і вырашаецца праблема тыпалагічнага сыходжання і разыходжання гэтых моў, уключаных у балканскі моўны саюз. У 1975 — 1976 гг. стажыраваўся (па стыпендыі ЮНЕСКА) у Польшчы. Абараніў доктарскую дысертацыю "Тыпалагічныя праблемы балканаславянскага моўнага арэала" (1982). У ёй балканаславянская лінгвістычная праблематыка вылучаецца як адзінае цэлае на фоне іншых славянскіх моў. Аўтар упершыню вызначыў цэнтры і кірункі пашырэння на паўднёваславянскай тэрыторыі найбольш важных балканізмаў, большасць якіх мае прышлы (нетамтэйшы) характар, вызначыў іх першаснасць і другаснасць, не залежныя паміж сабой, розначасовасць і самастойныя кірункі ірадыяцыі, пераважнае іх размяшчэнне на перыферыі балканаславянскага арэала, што значна ўзбагаціла тэарэтычныя асновы пытання пра фармаванне балканскага моўнага саюзу і ўнесла ўклад у разуменне заканамернасцяў утварэння іншых моўных саюзаў. Манаграфія была станоўча прынятая айчыннымі і замежнымі славістамі і балканістамі.

З часам кола навуковых інтарэсаў Г. Цыхуна пашырылася. Апрача балканістыкі і балканаславістыкі даследчыка цікавяць: арэальная лінгвістыка (пытанні арэальнай структуры ў славянскіх літаратурных мовах, цэнтры ірадыяцыі моўных інавацый), Палессе як этналінгвістычны рэгіён, куды ён у 1963 — 1965 гг. неаднаразова выязджаў у экспедыцыі, што праводзіліся пад кіраўніцтвам акадэміка Мікіты Талстога, а з 1967 г. — з калегамі па Інстытуце — з мэтай збору і вывучэння лексікі Сярэдняга Прыпяцкага Палесся, вынікам чаго стаў пяцітомавы "Тураўскі слоўнік" (1982-1987). Ён прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі беларуска-балтыйскага і беларуска-іншаславянскіх сімпозіюмаў, што праводзіліся ў Інстытуце мовазнаўства ў 1969 - 1975 гг. Г. Цыхун - адзін з найбольш актыўных аўтараў "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы", а з 9-га выпуска - яго навуковы рэдактар.

Вучоны спалучае свае славістычныя інтарэсы з даследаваннямі ў галіне беларускай мовы: мова беларуска-польскага памежжа, мова Адама Міцкевіча, тэрміналагічныя слоўнікі, яцвяжская праблема ў беларуска-польскіх моўных кантактах, беларуская "трасянка", славянскія мовы ў святле экалінгвістыкі, дэфармацыі ў развіцці беларускай мовы ў гады таталітарызму, арэальная структура праславянскай мовы, беларуска-паўднёваславянскія моўныя сувязі, перакладная іншаславянска-беларуская лексікаграфія, лінгвістычная бібліяграфія беларусістыкі ў "Roczniku Slawistycznym" ("Славістычны штогоднік") з 1974 г. і ў "Bibliografii jezykoznawstwa slawistycznego" ("Бібліяграфія славістычнага мовазнаўства") за 1992 - 1997 гг. Ён выступаў з дакладамі на сямі міжнародных з'ездах славістаў, на замежных і айчынных канферэнцыях і сімпозіюмах. З 1993 г. Г. Цыхун - член Міжнароднага камітэта славістаў, з 1992 г. - намеснік старшыні Беларускага камітэта славістаў, член міжнародных камісій пры Міжнародным камітэце славістаў (па лінгвістычнай бібліяграфіі, па гісторыі славістыкі, па балканскім мовазнаўстве, па славянскай этымалогіі), з 1995 г. старшыня Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. У 1991 - 2005 гг. Генадзь Апанасавіч загадваў аддзелам славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам падрыхтаваны шэраг маладых вучоных з ліку аспірантаў і спашукальнікаў.

Свае глыбокія веды і дасканалае практычнае валоданне паўднёваславянскімі мовамі Генадзь Цыхун перадае малодшаму пакаленню, выкладаючы балгарскую (з 1966 г.) і македонскую (з 1983 г.) мовы на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Агульная колькасць апублікаваных прац даследчыка - каля 300.

Калегі Генадзя Апанасавіча Цыхуна, яго вучні і ўсе, хто ведае гэтага цудоўнага чалавека, творчага і працавітага вучонага, шчыра жадаюць яму добрага здароўя і далейшай актыўнай навуковай дзейнасці.

***Іван ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ,***
***старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.***

# BELARUS` НА СУСВЕТНЫХ КАРТАХ БУДУЦЬ ПІСАЦЬ ПРАВІЛЬНА

**Пакуль што на замежных картаграфічных творах- сустракаюцца розныя варыянты напісання лацініцай беларускіх геаграфічных і адміністрацыйных назваў (населеных пунктаў, вёсак). Гомель, напрыклад, можа быць і Homyel, і Homiel, Віцебск — і Vitsyebsk, і Viciebsk. Беларускія назвы скажаюцца. Днямі ў Эстоніі праходзіла пасяджэнне балтыйскага аддзела экспертаў картаграфіі ААН, дзе абмяркоўваліся пытанні перакладу на лацініцу назваў населеных пунктаў краін, якія выкарыстоўваюць кірыліцу.**

Прынамсі, у нас даволі даўно існуе Інструкцыя па транслітарацыі беларускіх назваў для стварэння картаграфічных твораў на лацініцы, распрацаваная спецыялістамі аддзела геадэзіі і картаграфіі Белдзяржкаммаёмасці сумесна з вучонымі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. У Нацыянальным рэестры, прававых актаў яна была зарэгістравана 30 лістапада 2000 года.

Як растлумачыла галоўны спецыяліст сектара картаграфіі аддзела геадэзіі і картаграфіі Дзяржкамітэта па маёмасці РБ Наталля Аўраменка, усе назвы перадаюцца з нацыянальнай формы напісання, гэта галоўнае правіла. Напрыклад, правільна трэба пісаць Navapolack. Bielarus` павінна пісацца абавязкова з апострафам як паказчыкам мяккасці.

У 2007 годзе ў Нью-Ёрку на разгляд канферэнцыі ААН, прысвечанай геаграфічным назвам, будзе прадстаўлена створаная беларускімі спецыялістамі інструкцыя па транслітарацыі. Пасля прыняцця адпаведнай рэзалюцыі беларуская сістэма стане міжнароднай.

***Інга МІНДАЛЁВА,***
***"Звязда" ад 14.X.2006 г.***

# СУМНЯВАЮСЯ

*Артыкул, змешчаны вышэй, быў надрукаваны ў "Звяздзе" ад 14 кастрычніка 2006 г. Аналагічны артыкул быў надрукаваны ў "Камсамольскай праўдзе" ад 13 кастрычніка 2006 г. Там жа была прыведзена карта з "правільным" напісаннем слова "Беларусь" літоўцамі. У абодвух артыкулах са спасылкай на галоўнага спецыяліста сектара картаграфіі аддзела геадэзіі і картаграфіі Дзяржкамітэта па маёмасці РБ Наталлю Аўраменку прыводзіцца і "правільнае" напісанне слова "Navapolack".*




Але, шаноўныя беларусы, дацэнты з кандыдатамі і ўсе астатнія 99,9% насельніцтва, якія ведаюць літары, у напісанні слова "Беларусь" у артыкулах "Звязды" і "КП", а таксама на карце зроблена роўна дзве памылкі. "Belarus`" чытаецца як "Бэлярусь". Але наша краіна называецца "Беларусь", а не "Бэлярусь". Яшчэ цікавей з Наваполацкам. У беларускай лацінскай азбуцы, распрацаванай Б. Тарашкевічам літары "V" няма зусім, а з "L" тое самае, што і ў слове "Беларусь". Таму з "правільнага" *"Navapolack"-а* атрымоўваецца ***"На?аполяцк"***. Паводле Тарашкевіча слова "Беларусь" лацінкай трэба пісаць як "Biełaruś", г. зн. павінна прымяняцца цвёрдае "Л" (Ł) і мяккае "С" (Ś), кірылічнае "е" павінна пісацца як "ie", а кірылічнае "В" - як "W". Таму слова Віцебск павінна пісацца як Wiciebsk.

Мяркуецца, што як і на літоўскай карце кірылічнае "ч" будзе перадавацца як "č", але што тады рабіць з беларускімі пашпартамі. Беларускія лінгвісты ганарова заяўлялі ў свой час, што ў нас транслітарацыя прозвішчаў і імёнаў у пашпартах зроблена з беларускага напісання, але як зроблена? Да прыкладу, імя Вячаслаў у беларускіх пашпартах пішацца Viachaslau, а Валянціна - Valiantsina. Тут кірылічнае "ч" перадаецца на англійскі манер як "ch", але "ch" у беларускай лацінцы заўсёды абазначала "х". Дарэчы, і знак скарачэння над "u" для беларускага правапісу абавязковы, а не як кропачкі над "ё" ў рускай мове - пажаданыя, а калі цяжка такі значок ставіць, то варта згадаць, што лацінскае "v" у класічныя часы абазначала перш за ўсё менавіта "ў", а потым ужо "у" і "в".

Сумняваюся, што будуць пісаць правільна. Бо асноўным распрацоўшчыкам лацінкі для картаў выступае Белдзяржмаёмасць, а лацінку для пашпартоў стварала, відаць па ўсім, МУС. А што Акадэмія навук? Трошкі дапамагала? А ці не пара заканадаўча прыняць лацінскі варыянт беларускага альфабэту, а не нейкую там "інструкцыю з нагоды", ну калі не заканадаўча, то хаця б на ўзроўні пастановы той жа Акадэміі. Даўно пара мець і кампутарныя шрыфты беларускай лацінкі, а то каб надрукаваць некалькі словаў трэба ўводзіць у кампутар і польскі, і чэшскі альфабэты.

***Станіслаў Суднік.***

# Мірскі замак на канвертах




УП "Белпошта" выпусціла маркаваны канверт з выявай Мірскага замка. На канверце надпіс: "Замкавы комплекс Мір. Помнік беларускага дойлідства XVI-XX стст. Першы помнік беларускай нацыянальнай культуры, уключаны ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЭСКА".

***Наш кар.***

# ДЗЯДЫ

У першыя дні лістапада могілкі свецяцца тысячамі агеньчыкаў, а паветра насычана змешаным пахам воску, копаці і хрызантэмаў. Таму што кожны веруючы, а часам і не веруючы, чалавек лічыць абавязкам прынесці і запаліць на магілах свечкі альбо знічы, якія з'яўляюцца сімвалам жывой памяці пра памерлых, нашай любові, сяброўства, добрых успамінаў. Сіла гэтай памяці і сувязі пакаленняў робіць так, што кожны год у гэтыя дні ад раніцы да вечара на могілкі прыходзяць натоўпы людзей, якія наведваюць магілы сваіх блізкіх, старанна прыбраныя і ўпрыгожаныя кветкамі напярэдадні. У знак памяці і сувязі з памерлымі на магілах родных, сяброў, а таксама на магілах і каля помнікаў нацыянальным героям, пісьменнікам, дзеячам культуры, на брацкіх магілах, у месцах масавай гібелі людзей, у былых канцэнтрацыйных лагерах, ставяцца запаленыя свечкі і знічы. Паводле старога звычаю, свечкі запальваюць таксама на занядбаных магілах, на якія не прыходзіць ніхто блізкі. У гэтыя дні у касцёлах ва ўсім свеце адбываюцца памінальныя маленні за памерлых.

Дзяды - народнае свята, якое паходзіць з далёкіх дахрысціянскіх часоў. Нашы праславянскія продкі, як і жыхары іншых рэгіёнаў свету, верылі ў жыццё пасля смерці і таямнічы свет памерлых, якія жывуць па сваіх законах. Верылі ў нялюдскія веды і магутнасць памерлых. Верылі, што памерлыя могуць уплываць на лёсы жывых. Таксама верылі ў тое, што ў пэўныя дні душы памерлых могуць пакідаць "той свет" і незаўважанымі пранікаць у свет жывых альбо прыходзіць да іх у сне. Верылі, што памерлыя, калі выходзяць на зямлю, патрабуюць ежы, цяпла, адпачынку, а таксама блізасці сваіх родных і іншых людзей. Лічылася, што найважнейшы абавязак жывых - даць усё патрэбнае памерлым, бо абражаныя, разгневаныя альбо незадаволеныя памерлыя могуць зрабіць жывым шкоду, страшыць, прыводзіць няшчасце, заўчасную смерць, "цягнуць" жывых у свой свет.



*Могілкі пры вуліцы Ліпавай у Любліне ў Дзень Усіх Святых. 1.11.2003 г.*

Хрысціянства наклалася на гэтыя вераванні і прыняло абрады ў гонар памерлых. Дзяды святкуюць і праваслаўныя, і каталікі. Ва ўсходняй царкве (праваслаўнай) Дзяды святкаваліся ўжо ў VI стагоддзі. Абрады, звязаныя з культам памерлых, адпраўляліся 3-4 разы на год (у залежнасці ад мясцовасці), вясной і ўвосень. Галоўнымі былі Дзяды Змітраўскія ("Радзіцельская субота", "Асяніны", "Змітраўка") - у суботу перад Змітравым днём (26 кастрычніка старога сіылю), на Радаўніцу, а таксама перад Масленіцай, Сёмухай. У некаторых вёсках святкавалі Дзяды Кузьмінскія (1 лістапада ст. ст.), Міхайлаўскія (8 лістапада ст. ст.) альбо Піліпаўскія (14 лістапада ст. ст.). У заходнім касцёле (каталіцкім) прынятыя два святы - Усіх Святых (1 лістагада), уведзены ў 835 годзе, і Усіх Верных Памерлых, альбо Дзень Задушны (2 лістапада), уведзены ў 998 годзе. Дзень Усіх Святых, г. зн. збаўленых памерлых, якія, дзякуючы сваім заслугам, ўзнесеныя над простымі памерлымі, - радаснае свята. У гэты дзень у каталіцкіх касцёлах адпраўляецца радасная імша. Дзень Задушны - свята, пасвечанае памяці і малітвам за ўсіх верных памерлых, вядомых і невядомых. У гэты дзень адпраўляецца жалобная імша за душы памерлых. Касцёл звязаў свае святы памяці з часам традыцыйных народных святаў памерлых, прагнучы выкараніць нехрысціянскія вераванні і абрады. Прапанаваў памяць пра памерлых, малітву за іх, каб паменшыць пакуты душаў у чысцы і забяспечыць ім вечны супакой. З хрысціянскімі абрадамі звязаліся многія народныя звычаі, некаторыя з якіх усё жтакі перайшлі з мнагабожжа. З'явіліся вераванні, што ў лістападавыя касцельныя святы памерлых, душы, зволеныя з чысцу, вяртаюцца на зямлю, блукаюць па дарогах, могілках, прыходзяць на, месцы свайго зямнога жыцця і лросяць аб дапамозе, малітве, ахвяры. Прыходзяць дахаты, каб даведацца, як жывуць іх нашчадкі, як яны клапоцяцца аб гаспадарцы, як складваюцца сямейныя ўзаемаадносіны, як захоўваюцца спрадвечныя звычаі. Таму ў хаце, а часам нават у хляве, наводзілі парадак.



*Жыхары Любліна - ахвярам Катыні. Люблін. 1.11.2003 г.*

У некаторых рэгіёнах уся сям'я збіралася за сталом на ўрачыстую вячэру, на якую гатавалі святочныя і абрадавыя стравы (куцця, аладкі, клёцкі, яечня, мяса). Часам, ад кожнай стравы сімвалічна адкладвалі у асобны посуд нябожчыкам. Да дзядоўскага стала было прынята спецыяльнымі зваротамі запрашаць усіх памерлых у гэтай хаце. Напрыклад, так: "Святыя Дзяды, клічам вас, хадзіце да нас, ляціце да нас, чым толькі хата багата, што ёсць тут - я для вас ахвяраваў". Пасля вячэры ежа не збіралася са стала, бо ноччу маглі прыйсці павячэраць памерлыя. Для душаў пакідалі адчыненымі вароты і дзверы, парогі крапілі святой вадой, каб прайсці маглі толькі добрыя духі. Пакідалі міску з вадой, ручнік, каб нябожчыкі маглі памыцца пасля доўгага падарожжа. Каб душам было цёпла, добра напальвалі ў печы. Нанач пакідалі запаленымі свечкі.

Ежу прыносілі на могілкі і да касцёлаў і раздавалі "касцельным дзядам" - жабракам, якія ванравалі ад касцёла да касцёла. Лічылася, што малітвы "касцельных дзядоў" за душы блізкіх Бог найлепей выслухвае, а таксама, што душа блізкага чалавека альбо суседа можа прыняць постаць такога "дзеда".

1 і 2 лістапада, пасля заходу сонца, душы памерлых прыпамінаюць пра сябе стукам, скрыпам падлог, калыханнем брамак і дзвярэй, шумам ветру ў коміне, іскрамі над вогнішчам; могуць пакінуць ледзве бачны след далоні альбо стапы на пяску ці попеле, пасыпаным на падлозе; паказваюцца людзям у сне і ў яве ў сваёй даўняй постаці альбо як цень, святло.

Злосныя духі вялікіх грэшнікаў могуць "вадзіць" людзей і ўцягваць у багну. Паўставалі забароны і перасцярогі. У гэтыя дні стараліся не выходзіць з дому пасля надыходу змроку, не выязджалі ў падарожжа, не хадзілі ў госці да суседзяў, бо верылі, што душы страшаць на дарогах. На раздарожжах і могілках распальвалі вялікія вогнішчы і падтрымлівалі агонь да світанку, каб блукаючыя душы маглі каля іх адпачыць і сагрэцца. Агонь мусіў таксама абараняць ад злых духаў і вампіраў.

Існуе паданне, што ў ноч з 1 на 2 лістапада, набожныя людзі, схаваўшыся, могуць апоўначы ўбачыць ідучых натоўпам памерлых з памерлымі пробашчам і арганістам, пачуць арганную музыку і званы. Для душаў пакідалі адчыненымі дзверы касцёла. Не дазвалялася ноччу ўваходзіць у касцёл і прыглядацца да імшы духаў - памерлыя не таліравалі жывых у сваіх абрадах і маглі забіць...

Найдаўжэй (да XIX стагоддзя) абрады, звязаныя з мнагабожжам, у тым ліку з прынашэннем ахвяраў і прызываннем духаў, захаваліся на беларуска-літоўска-польскім памежжы. Гэтыя абрады і фальклор памежжа паслужылі асновай для паэмы Адама Міцкевіча, якая так і называецца "Дзяды".



*Люблін. 1.11.2003 г.*

Сінтэз хрысціянства і дахрысціянства зрабіў Дзяды адным з галоўных святаў у годзе. А на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя Дзень памяці (2 лістапада) стаў дзяржаўным святам на Беларусі.

*Павел Давідоўскі.*
*Фота аўтара.*

# Праспект Машэрава? Стары ці новы?

*7 траўня 2005 года ў нашай сталіцы стала на адзін праспект болей, але пры гэтым зменшылася колькасць вуліц. Напярэдадні 60-х угодкаў Перамогі замест вуліц Варвашэні, Ерусалімскай і Дразда на карце Менска намаляваўся "праспект Машэрава". А тое, што было праспектам Машэрава дагэтуль, атрымала назоў "праспект Пераможцаў". Разам з Машэравым пад тапанімічную разборку трапіў Францішак Скарына. Ягонае імя знікла з шыльдаў галоўнай магістралі горада, якая стала "праспектам Незалежнасці".*

Мінуў час, і выявілася, што па "Варвашэні", "Драздзе" і "Ерусалімскай" грамада надта не сумуе. З нейкіх прычын гэтыя назвы не ўкараніліся ў свядомасці гараджан, не сталі мінчукам роднымі. Не прыжыліся, аднак, і леташнія тапанімічныя наватворы. Праспект Незалежнасці блытаюць з аднайменнай плошчай, а "праспект Пераможцаў" не ўспрымаюць ўвогуле. Калі сёння ў мінчука запытаць дарогу на праспект Машэрава, дык у адказ ён затрабуе ўдакладнення: "Стары праспект Машэрава ці новы?"

Цалкам верагодна, што са зменай палітычнай сітуацыі Скарына з Машэравым возьмуць рэванш, але ж і назва "праспект Незалежнасці" ужо не павінна знікнуць з карты горада. Больш за тое, праспект з такой назвай мусіць быць не ў раёне навабудоўляў, а ў цэнтральнай частцы нашай сталіцы. І, як мне падаецца, вартае месца для яго тут ёсць. Гэта вуліца Маскоўская, якая пачынаецца ад плошчы Незалежнасці і пераходзіць у вуліцу Чкалава. Для суверэннай краіны і, тым больш, для яе сталіцы тапаніміка савецкай мінуўшчыны – неактуальная. Будзе цалкам лагічна ператварыць вуліцы Маскоўскую і яе працяг – вуліцу Чкалава у праспект Незалежнасці. Будучы праспект і зараз мае прэзентабельны выгляд, а ў новым статусе будзе вельмі прывабным для забудоўшчыкаў.

Што ж датычыць праспекта зробленага з вуліц Варвашэні, Ерусалімскай і Дразда, дык малаверагодна, што ён зноў распадзецца на тры вуліцы. Не было ў гісторыі Менска такога, каб праспект зноў вуліцай рабілі. Але бяручы, да ўвагі важнасць гэтай магістралі ў структуры горада, яе назва, мабыць, будзе тэмай дыскусіі.

*Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 10. 2006 г. у 10.00. Замова № 2170.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.